ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 31 (2557)
ПЯТНІЦА
30
ліпеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## І КОЛАС ДОЛУ ХІЛІЦЦА Ў ПАШАНЕ...



ХЛЕБ...

Адно з найвялікшых цудаў, створаных чалавецтвам...

Тысячагоддзі назад чалавек упершыню, пасля доўгай карпатлівай працы, зведаў смак хлеба. Але і сёння ён прыходзіць на наш стол нялёгкім шляхам. І сёння за скібкай хлеба — дні і месяцы стараннай працы хлебароба. Не тая яна цяпер, хлебаробская праца, якой была калісьці. Не сошка-крывулька і не худая сіўка, а трактар і камбайн з'яўляюцца сёння сімваламі працы земляроба. Але ад гэтага не меншае цана хлеба, бо ён — аснова жыцця. І па-ранейшаму жыве ў народзе святая пашана да яго, і па-ранейшаму найвялікшае свята ў сялянскай хаце бывае ў той дзень, калі на стале паяўляюцца гарачыя, пульхныя боханы, спечаныя з мукі новага ўраджаю, і па-ранейшаму пачатак жніва — урачысты момант у гадавым працоўным кругазвароце селяніна, бо жніво — свята, бо яно вянчае ягоныя заўсёдныя — зімовыя і вясеннія, ранішнія і вячэрнія — клопаты і турботы.

**Паўсюдна—ад Магілёва да Брэста і ад Гродна да Гомеля —выйшлі на палі камбайны. Харошы, радасны настрой у працаўнікоў калгаснай і саўгаснай вёскі. Натхнёныя мудрымі і велічнымі рашэннямі XXIV з'езда роднай партыі яны слаўна папрацавалі, каб ужо сёлета, у першым годзе новай пяцігодкі, узяць добры старт магутнага і шырокага поступу ў наступныя гады, каб выканаць сваю галоўную, найважнейшую задачу — даць краіне як мага болей хлеба.**

**І колас долу хіліцца ў пашане перад імі. Зямля расплочваецца шчодра—яна выспеліла на сваіх шырокіх далонях багаты ўраджай. І гэта добра. Бо чым больш збожжа будзе засыпана ў дзяржаўныя засекі, тым багацейшай і мацнейшай будзе наша вялікая маці-Радзіма.**

**Спорнага намалоту вам, хлебаробы!**

Мікола ГІЛЬ.

Фота Ул. КРУКА.



Браты Міньо Наранха (Эквадор).



Ансамбль Лос Монтанерас (Балівія).

*ГОСЦІ МІНСКА*

# ПРА СЯБЕ, ПРА ЖЫЦЦЁ

...Зайграла музыка, і велізарны будынак Мінскага Палаца спорту напоўніўся пяшчотай лацінаамерыканскай мелодыі. І вось нечакана, своеасаблівым ланцугом —жывым і маляўнічым— узніклі яны, прадстаўнікі мастацтва Эквадора і Балівіі, Аргенціны і Калумбіі, Уругвая, Бразіліі, Панамы. Узяўшыся за рукі, праходзілі адзін за адным у надзвычай пластычным танцавальным руху, негры і мулаты, індзейцы і крэолы, белыя і метысы, сусветнавядомыя зоркі эстрады і народныя выканаўцы, каб засведчыць савецкім людзям сваю глыбокую павагу. І было радасна, што прадстаўнікі розных народаў і кантынентаў жадаюць жыць у міры і сябраваць, што іх мастацтва цудоўна дапамагае ўзаемаразуменню між людзьмі.

А потым, пасля гэтага ўрачыстага і святочнага ўступу, пачаўся і сам канцэрт лацінаамерыканскіх выканаўцаў. І зноў стала зразумела, што ва ўсіх народаў свету песню і танец нараджаюць праца і адпачынак, каханне і нянавісць, горыч страт і светлыя мары, прыгажосць роднага краю і палымяная любоў да радзімы. Менавіта пра гэта і расказвалі нам у сваіх выступленнях таленавітыя госці з далёкага кантынента.

Вось гучыць уругвайскі дуэт «Лос Алімарэньяс». Спевакі пад акампанемент гітар пранікнёна выконваюць песню пра Сімона Балівара, які прысвяціў усё жыццё барацьбе за вызваленне народаў Лацінскай Амерыкі ад іспанскіх захопнікаў. Узрушаныя маляўнічасцю традыцыйных народных свят, артысты шчыра і тэмпераментна выконваюць «Карнавальную песню».

А колькі душы ўкладзена аргенцінскім спеваком Самбам Кіпільдорам у трактоўку песень «Вецер радзімы маёй» (на словы Пабла Неруды) і «Кроў шахцёра», якая расказвае пра цяжкую працу тых, хто дае людзям святло і цяпло, магчымасць вадзіць паязды і параходы. Тыя ж усхваляванасць і захапленне роднай зямлёй, гонар за тое, што могуць зрабіць працоўныя людзі, яскрава адчуваюцца ў выкананні калумбійскай спявачкай Леанор Міна песень «Чамбаку» («Краіна неграў») і «Каханне гаучо». Гаворачы пра гэтую артыстку, трэба адзначыць майстэрства, з якім яна спалучае спяванне з нацыянальнымі танцавальнымі рухамі.

Зразумела, што вялікае месца ў праграме нашых гасцей занялі песні—лірычныя і гумарыстычныя—пра каханне. Тут нельга не сказаць пра выкананне добра вядомай у нашай краіне песні «Бесама муча» калумбійскім трыо «Монтэ Карла». Ніколі яшчэ не даводзілася нам чуць такой мяккасці гучання, прыгажосці і злітнасці тэмбраў галасоў, як у гэтых юнакоў. Выдатная нюансіроўка, мастацкая прастата і дасканаласць спеваў — характэрызуюць таксама і выкананне тымі ж артыстамі песні «Хто гэта жанчына?»

Наогул, раскрыццю пачуцця жаночага кахання ўсе артысты аддаюць свой тэмперамент і спавядальную шчырасць. Пра цяжкі шлях да шчасця з любым спявала вядомая аргенцінская кінаактрыса Сурай у песні «Дарожка». Яна ж вельмі экспрэсіўна выканала песню «Пяшчота». А. Пахмутавай. З «Адным каханнем» нас пазнаёміла і цудоўная бразільская спявачка Соня Марыя Марміролі. Эквадорскі вакальна-інструментальны квартэт братоў Міньо Наранха расказаў пра палымяныя пачуцці дзяўчат сваёй краіны («Птушка-званочак», «Эквадорская любоўная», «Гранада»). Гэтыя выканаўцы вызначаюцца віртуознай ігрой на гітарах і дзівосным дыханнем: гукі песні цягнуцца, здаецца, неабмежаваную колькасць часу, як, напрыклад, у песні «Кукуру-куку».

Не меншую цікавасць і эстэтычнае задавальненне выклікае трактоўка песень пра каханне артыстамі квартэта «Раўліта Барбоса» (Аргенціна), вядомай панамскай спявачкай Марселай Троч, бразільскімі выканаўцамі Тэрэзай Сантас і Францыскам Сержыо Алівейрам з ансамбля «Сом Сінка». Іх артыстычнае выкананне выдатна падтрымлівае джазавы калектыў бразільскіх музыкантаў, якія захапляюць слухачоў не толькі віртуозным валоданнем інструментамі, але і, я сказаў бы, далікатнасцю акампанементу сваім таварышам з розных краін. У ансамблі «Сом Сінка» іграе лепшы бразільскі трамбаніст Себасцьян, які з бляскам выступіў у канцэрце і як саліст, выканаўшы вельмі складаны па выкарыстанні магчымасцей інструмента «Эцюд для трамбона з аркестрам». Своеасаблівa гучыць у спевака Гаспара Сампайо вядомая песня з савецкага кінафільма «Вертыкаль».

Наш агляд майстэрства спевакоў Лацінскай Амерыкі, з якімі давялося сустрэцца ў канцэрце, будзе няпоўны, калі не сказаць пра тэмпераментнае выкананне ўласных песень «І стварыў бог жанчыну», «Рэўнасць» і іншых калумбійскім артыстам Марыо Гарэньо. Як эстрадны кампазітар, аўтар паэтычных тэкстаў песень і спявак, ён пераможца многіх амерыканскіх конкурсаў. Выкананне Марыо Гарэньо па-плакатнаму кідкае, ён умее падкрэсліць думку, не губляючы вакальнага хараства мелодыі.

Вялікае месца ў праграме нашых гасцей займаюць фальклорныя нумары народна-песеннай і харэаграфічнай творчасці індзейцаў і неграў. Калі ў выкананні балівійскага ансамбля «Лос Мантанерас» гучаць «Чакарэра» і «Сялянская песня», а бразільскі ансамбль «Каркара» выконвае рытуальныя танцы, мы знаёмімся тут не толькі з рытмамі замбы, куэкі, конгі, лунду і іншых фальклорных танцавальных мелодый, але і з традыцыйнымі шэсцямі маракатас і рэйзадас, з барабанамі атабака, інструментамі тыпу марымбы, чупра і г. д. Асабліва моцнае ўражанне ў канцэрце пакінула выкананне ансамблямі «Сом Сінка» і «Каркара» вялікай харэаграфічна-вакальнай карнавальнай сцэны, што ўвасобіла прыгажосць народнага свята з яго непасрэднасцю ў раскрыцці пачуццяў, весялосцю, маляўнічасцю нацыянальных танцаў, мелодый, інструментаў, вопраткі.

Канцэрты гасцей яшчэ раз пацвердзілі, што сапраўднае мастацтва дае артыстам магчымасць расказаць пра сябе, пра сваё жыццё, зрабіць яго зразумелым і павучальным для ўсіх народаў, нягледзячы на рознасць моў і звычаяў.

**І. НІСНЕВІЧ.**

Фота Ул. КРУКА.



Тэрэза Сантос (Бразілія).



Марсела Троч (Панама).



Нільсон Кілес, Ракель Марыно і Сурай (Аргенціна).



Дуэт Лос Алімарэньос (Уругвай).



Леанор Гонсалес Міна (Калумбія).

казваюць толькі ў самым канцы артыкула, адказваюць коратка.

Я пішу гэтыя радкі ў «ЛІМ» пасля таго, як у нас у старажытным Пінску адбылося свята, прысвечанае чарговай, дваццаць сёмай гадавіне вызвалення Пінска ад гітлераўцаў. Праходзіла яно з 7 па 11 ліпеня. Называлася — «Зоры над Пінай». У свяце ўдзельнічалі ўсе музы, усе віды мастацтва. Гучала музыка, не сціхалі песні. Уладарыла паэзія. А першы дзень фестывалю быў поўнасцю прысвечаны паэзіі. У госці да пінчан прыехалі Анатоль Астрэйка, Міхась Скрыпка, Пятро Прыходзька, маладыя паэты Мікола Федзюковіч і Люба Філімонава. Было многа літаратурных сустрэч, цікавых выступленняў.

Актыўны ўдзел у паэтычным свяце прынялі члены літаратурнага аб'яднання «Арбіта» пры газеце «Полесская правда» Хведар Туманаў, Міхась Самуйлік, Алег Якушаў, Валерый Грышкавец... А вечарам у гарадскім парку культуры і адпачынку адбылася вялікая заключная сустрэча, на якую прыйшлі тысячы жыхароў Пінска. Нягледзячы на тое, што другі дзень свята «Зоры над Пінай» быў аддадзены мастакам і кінарэжысёрам, працягваліся і літаратурныя ўрачыстасці. Тысячы пінчан набылі зборнікі вершаў, атрымалі аўтографы ад мінскіх паэтаў. Як бы было добра, каб на агульнагарадскім вечары паэзіі ўперамежку з жывымі словамі А. Астрэйкі гучалі ў выкананні спевакоў і хору, і песні на яго словы («Ой, бацька мой Нёман» і інш.), каб вершы беларускіх паэтаў чыталі і майстры мастацкага слова. Сучасны эстрадны канцэрт ці проста вечар самадзейнасці ўжо нельга ўявіць сабе без чытання вершаў, урыўкаў з паэм, без паэзіі. Чаму ж не зрабіць і наадварот: каб на вечары паэзіі ўперамежку з вершамі спевакі выконвалі песні на словы беларускіх паэтаў! Было б таксама добра, калі б работнікі кніжнага гандлю не заставаліся ў баку ад свята. Варта паклапаціцца, каб кожны, хто трапіў на вечар паэзіі, вярнуўся дамоў з такога вечара з новай кніжкай, асабліва з «Днём паэзіі».

Дарэчы, пра само выданне «Дзень паэзіі». У сваім артыкуле В. Бечык і М. Гіль вельмі слушна засяродзілі ўвагу на месцы і ролі ў нашым літаратурным жыцці гэтага выдання. Іх клопат пра вартасць, якасць «Дня паэзіі» падзяляюць і шматлікія чытачы, сябры паэтычнага слова. Нельга не згадзіцца з тымі месцамі артыкула, дзе адзначаецца ўсё тое, добрае, чым вызначаўся першы выпуск «Дня паэзіі» (1965 г.). Так, знаходкі, удачы першага выпуску трэба было развіць і падтрымаць.

Зразумела і тая трывога, якая выказана ў артыкуле з прычыны з'яўлення бяздумных, лёгкаважкіх вершаў, пазбаўленых моцнага грамадзянскага зараду. У кнізе «Дзень паэзіі» асабліва недаравальна друкаваць шэрыя, пустыя, легкадумныя вершы. Нельга ператвараць святочнае выданне ў будзённы зборнік самых выпадковых вершаў.

Цяга да прыгажосці, да паэтычнага слова даўно ўжо стала характэрнай рысай нашага жыцця. Мне прыгадваецца вельмі цікавы артыкул у «ЛІМе» пра аднаго рабочага з Маладзечна, які мае 4 ці 5 класаў школы, набытыя яшчэ за польскім часам, але вольны свой час аддае захапленню паэзіяй, і не толькі паэзіяй — ён сапраўдны майстар па дрэве. А колькі іх, такіх шчырых аматараў, чые сэрцы аддадзены паэзіі! Яны працуюць на заводзе або калгасным полі, а вечарамі аддаюць свой вольны час улюбёнаму занятку, спяшаюцца ў літаратурныя аб'яднанні пры рэдакцыях мясцовых газет, у гурткі мастацкай самадзейнасці. Згадваецца і яшчэ адзін артыкул — у адным з нумароў «Маладосці» былі надрукаваны нататкі крытыка і літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка «Гняздо паэтаў» — пра жыццё літаратурнай Брэстчыны. Як было б добра, калі б у нашых выданнях «Дзён паэзіі» чытачы і аматары паэзіі знаходзілі такія цікавыя матэрыялы. Гэта зрабіла б выданне яшчэ больш цікавым і змястоўным.

Беларускае слова даўно выйшла за межы нашай рэспублікі. Таму трэба падумаць і аб тым, каб у «Дні паэзіі» больш шырока раскрываліся інтэрнацыянальныя сувязі беларускай паэзіі: расказвалася б аб тых, хто і дзе займаецца перакладам беларускай паэзіі на мовы іншых народаў.

Аўтары артыкула называюць больш за два дзесяткі імёнаў вядомых беларускіх паэтаў, не прадстаўленых у «Дні паэзіі-71». Чаму гэта здарылася? Мусіць жа не таму, што іх месца ў зборніку занялі пачаткоўцы. Дарэчы, можна назваць прозвішчы і некаторых здольных маладых паэтаў (напрыклад, Ніны Мацяш), чыіх твораў няма ў зборніку. Паводле артыкула В. Бечыка і М. Гіля, літаратурная моладзь на старонках «Дня паэзіі-71» прадстаўлена пераважна дрэннымі творамі. Магчыма, аўтары артыкула крыху і згусцілі фарбы, але ўсё ж мне здаецца слушным папрок у адрас рэдкалегіі зборніка за паблажлівасць і абыякавасць. Трэба рупна працаваць з маладымі, знаходзіць і адбіраць лепшае.

У «Дні паэзіі» разам з хронікай паэтычнага года было б добра і карысна бачыць і паэтычны календар на наступны год. Магчыма, варта побач з вершамі змяшчаць фотаздымкі аўтараў.

Недаравальна, калі «Дзень паэзіі» афармляецца і выдаецца шэра, нецікава. У сувязі з гэтым звяртаеш яшчэ ўвагу і на тое, што тыраж выдання змяншаецца. Калі «Дзень паэзіі-1966» выйшаў тыражом у 11 тысяч экземпляраў, то апошняе выданне мае амаль удвая меншы тыраж (6 тысяч). Афармленне зборніка пагоршылася, а цана, наадварот, узрасла.

Трэба вызначыць і пэўны тэрмін выхаду зборніка.

Так, хочацца, каб у нашай рэспубліцы было, праводзілася цудоўнае і прыгожае свята — Дзень паэзіі. Хай свята гэта адзначаецца ўрачыста, шырока, паўсюдна, хай выводзіць з будзённасці і ўздымае, далучае да паэзіі многіх людзей.

Хочацца пачуць накант гэтага слова Саюза пісьменнікаў БССР і ўсіх нашых творчых саюзаў. Трэба, каб 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа мы сустрэлі ўжо Днём паэзіі, які стане добрай традыцыяй.

**А. АЛЬФЯРОВІЧ,**
выкладчык мовы і літаратуры Пінскага мяса-малочнага тэхнікума.

---

кут пасля доўгай мары аб сустрэчы з ім. Адчуў, як немагчыма пакінуць вёску другі раз, змяніць яе на нейкі далёкі, хай і багаты край.

Няўжо само па сабе, выпадкова можа гэткае здарыцца, каб у цяжкую хвіліну, там, дзе чалавек мог бы зрабіць памылку, дзе ён мог бы страціць многае, магчыма—усё, каб якраз тады да яго прыйшла кніга: і навучыла, як рабіць, і павяла з вузкай сцежкі на шырокі шлях, уратавала? Ласоўскі перакана765: павінен быць пошук узаемны. Не кожны чалавек у цяжкую хвіліну цягнецца да кнігі, але і не кожная кніга прыйдзе на дапамогу чалавеку. Нават цікавая, разумная кніга не заўсёды ўлезе ў душу, пераверне яе. Тут патрэбна кніга свая па духу, па мове, па ўсяму ладу свая...

...РАНІЦАЙ зноў імжыў дождж-грыбасей. У саўгасным садзе выбіралі на продаж трускаўкі — у Трасціно па іх ехалі з усяго Хоцімскага раёна і нават з суседніх раёнаў: ягадамі гаспадарка славілася далёка.

З Ласоўскім мы гаварылі аб усім, аб самым будзённым, быццам я забыўся, што прыехаў не ў госці, а да героя свайго нарыса, і ён быццам не ведаў, што я мушу пісаць аб ім, вясковым бібліятэкары. Можа, ён і не ведаў. Мы гаварылі аб вайне, саўгаснай гаспадарцы, рэчках, рыбе, лясах, суседзях, сваяках, гісторыі Трасціно, школе, грыбах і, вядома, аб кнігах. Потым у Міхала Аляксеевіча пачынаўся рабочы дзень, і мы прыйшлі ў бібліятэку. Пачалі заходзіць чытачы. Яны таксама прыносілі з сабою водар лугоў, лесу, ягад, грыбоў, гаворку аб усім гэтым і аб школе, вёсцы, машынах, прафесіях. І бібліятэкар і яго чытачы бачыліся мне ў надзвычай вялікім коле думак, клопатаў, у жывым шматфарбным святле, зямным і ўзвышаным, і ўсё гэта—сярод кніг, з кні-

# ЛУГІ...

гамі ў руках, з вялікай любоўю да кнігі. Здавалася, што гэта любоў настоена на травах, лясах, дажджах, звычайнай людской працы.

Маладыя хлопцы падышлі да кніжных паліц — выбраць кнігі. Ласоўскі хоць і гаварыў са мною—глядзеў на іх.

— Не веру, што бібліятэчную работу можна наладзіць за нейкі год, як кажуць іншыя,—разважаў ён.— Які б геніяльны ні быў бібліятэкар — нельга, бо за год не прывіваецца чалавеку любоў да кнігі. У Клімавіцкім раёне, у Лазовічах, адзін час рабіла цікавая бібліятэкарка. Калі ў бібліятэцы не было чытачоў, яна складала кнігі ў мех і сама несла іх па вёсках. Што вы думаеце? У кожнай хаце, на кожным стале з'явіліся кнігі. Перамога? Не. Гэта была ўяўная перамога. Раптам жанчына пакінула вёску, на яе месца прыйшла новая жанчына. Думала, што ёй лёгка будзе, бібліятэка славілася—усе ў вёсцы, быццам, чыталі. Але што такое? Не ідуць чытачы ў бібліятэку. Куды падзеліся? А іх і не было! Кнігі прыйшлі ў кожную хату, ды не ў кожнай хаце іх чыталі, не была прывіта любоў да кнігі. Любоў чытача да кнігі—тут усе нашы радасці. Адразу яе не прышчэпіш чалавеку... Чытача трэба выхоўваць.

І ён выхоўвае. Ён перакананы, што ўсю прыгажосць зямлі можна і неабходна раскрываць перад чалавекам на творах роднай літаратуры, на роднай мове. І гэтак на чалавека трэба ўплываць з маленства. Кніга для маленькага чытача — мо самы важны клопат Ласоўскага. Яму да смешнага мала мець у бібліятэцы два-тры экземпляры, скажам, «Дударыка» Васіля Віткі. Нельга абкрадваць малых», кажа ён і заказвае дзесятак «Дударыкаў», каб можна было сабраць вакол сябе дзяцей, кожнаму даць па кнізе і толькі тады весці аб кнізе размову. «Я даўно прыкмеціў,—заўважае далей Міхал Аляксеевіч, — што калі не навучыць любові да роднай мовы і літаратуры малога чытача, то потым, калі ён падрасце, ужо цяжка вярнуць гэтую любоў».

Дваццаць гадоў працуе Міхал Аляксеевіч са сваімі чытачамі. Гэта значыць, што амаль уся моладзь Трасціно пачынала праходзіць кніжныя універсітэты ў яго, Ласоўскага. Большасць чытачоў — яго даўнія выхаванцы, ім вырашчаныя каласы. І як не зразумець і яго незадаволенасць!

— Прымушаюць весці картатэку профілю чытачоў. А навошта яна мне? Сорак пяць гадоў жыву ў Трасціно, дваццаць—загадваю тут бібліятэкаю. Кожны чытач—мой выхаванец. Навылёт кожнага ведаю. Дык навошта ж фармальнасць, гэты профіль...

Справа не ў адным «профілі». Ласоўскі ва ўсім гэтакі: ён супраць работы, якая нічога не дае ні розуму, ні сэрцу, супраць прывычнага і непрывычнага шаблону, фармалізму, агульных рэкамендацый. Ва ўсякай справе хоча ісці ад уласнага вопыту, ад мясцовых умоў, ад чытача. Што скажа чытач? Што хоча чытач?

Ёсць у Ласоўскага суседка Софа Рыгораўна Раманенка. Працаўніца—ад душы, а да кнігі... «Няма часу»,—кажа, бывала. І бібліятэкар не стараўся ўгаворваць: такая справа—сілком да кнігі не прывяжаш. Можна было б, канечне, уручыць суседцы якую кнігу: нясі, Софа Рыгораўна, чытай — быў бы ў справаздачы яшчэ адзін кніжнік. Але не хацеў рабіць так, як тая лазовіцкая «народніца». Проста прыглядаўся да суседкі і... улучыў, усё ж, момант. Аднойчы ўбачыў, з якой радасцю жанчына глядзела тэлевізійны фільм па «Трывожным шчасці» І. Шамякіна. Спытаў пасля: «Спадабаўся фільм?» — «О-го, цікавы». — «Але ж гэтае кіно зроблена па кнізе. У нас кніга ёсць. Пачытаеце? Там яшчэ цікавей...» І суседка прыйшла ў бібліятэку сама. Прачытала раман—спадабаўся. Папрасіла яшчэ што-небудзь гэтага ж аўтара, а потым перачытала ўсе творы Шамякіна.

— Яшчэ адзін бок нашай працы адкрыўся мне тады, у гісторыі з Софай Рыгораўнай. Які? Што тэлевізар, кіно—нашы памочнікі, а не наадварот, як думаюць іншыя. Звыклі спіхваць свае бібліятэчныя няўдачы на экран: маўляў, гэта ён адбівае чалавека ад кнігі. Не. Не так гэта! Было яшчэ і з шолахаўскім «Ціхім Донам»...

Так, не чыталі ў вёсцы гэты выдатны раман. А паглядзелі кінафільм—з рук у рукі пайшла кніга. Дзесяць экземпляраў набыў яе Ласоўскі—усе ўшчэнт зачыталі. Не хіліліся вельмі і да паэзіі. Міхал Аляксеевіч пачаў выкарыстоўваць тэлевізійныя паэтычныя перадачы— і ўсё іначай пайшло. Ён цяпер пільна сочыць за тэлевізійнымі праграмамі, загадзя рыхтуецца і чытача рыхтуе да літаратурных тэлеперадач.

— Загадзя—гэта вельмі важна ў бібліятэчнай рабоце...

Ён ведае, над якім творам працуе любімы пісьменнік кожнага чытача, у якім часопісе гэты твор будзе друкавацца, калі выдадзены—дзе яго шукаць. Ведае, над чым працуюць пісьменнікі-земляки. Даўно чакае трэцюю кнігу палескай хронікі Івана Мележа і перажывае: «Нешта доўга піша...» З чытачом у Ласоўскага ўплыў узаемны. Сёння ён уплывае на іх, заўтра—яны на яго.

— Не магу глядзець,—прызнаецца ён,—як часам бібліятэкі спісваюць дублетную літаратуру. Калі больш за два экземпляры кнігі, то ўжо і дублетная, непатрэбная. А як гэтым спісаннем абкрадваюць чытача!..

Думка ідзе ад практыкі работы, ад тонкіх назіранняў. Міхал Аляксеевіч даўно пераканаўся, што на двух экземплярах кнігі масавую работу з чытачом не наладзіш. Каб арганізаваць па кнізе цікавую канферэнцыю, гарачы абмен думкамі, трэба абавязкова мець дзесяць-дваццаць, а то і болей экземпляраў кнігі. Бо цікавая размова адбываецца тады, калі на дзесяць выступаючых кнігу прачытае пяцьдзесят чалавек, калі ўсе чыталі кнігу адначасова—ва ўсіх уражанні павінны быць аднолькава свежыя. Ласоўскі шчыра дзівіцца: як можна ў школе весці размову аб мастацкім творы пісьменніка, не паклаўшы гэты твор на кожную парту, перад кожным вучнем? Ён хоча самых актыўных адносін чалавека да кнігі, калі ўжо весці аб ёй размову. А інакай—такую размову і не пачынай зусім.

Не раз бывала, што і яму даводзілася наладжваць канферэнцыю чытачоў, маючы на бібліятэчнай паліцы ўсяго тры-пяць экземпляраў кнігі. Тады Ласоўскі ехаў ці ішоў па суседніх бібліятэках. Так было, напрыклад, калі рыхтаваў канферэнцыю па кнізе Івана Новікава «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску». Дзесяці экземпляраў сваіх, здалося, малавата. Прынёс ад суседзяў яшчэ дзесяць. І размова адбылася надзвычай цікавая. Праўда, з-за непагадзі не прыйшлі на канферэнцыю тыя, хто рыхтаваўся выступіць, але затое непасрэдна, цікава выступалі тыя, хто выступаць не збіраўся, хто ніколі не выступаў. Размова ішла ад душы, ад любві да твора.

ПЕРАД МАІМ ад'ездам з Трасціно, калі мы зайшлі апошні раз у бібліятэку, Міхал Аляксеевіч паказаў мне дзесятак аднолькавых альбомаў у прыгожых чырвоных вокладках—як дзесяць тамоў аднаго вялізнага рамана. Залатое цісненне на кожным: «Крыніца культуры». Пакуль што пад вокладкай чыстыя белыя аркушы, але неўзабаве тут будзе запісана гісторыя Трасцінскай сельскай бібліятэкі — сапраўднай крыніцы культуры, якой хутка споўніцца пяцьдзесят гадоў. Ужо сабраны цікавыя матэрыялы пра першага трасцінскага бібліятэкара Івана Валер'янавіча Дзёмкіна, пра першых будаўнікоў новай савецкай культуры ў Трасціно, пра першых чытачоў бібліятэкі, пра першыя кнігі на вёсцы, пра пісьменнікаў-землякоў... Гісторыя збіраецца ўсім бібліятэчным актывам, але ўступ да яе, невялічкую прадмоўку, напісаў Ласоўскі і назваў — «Запрашэнне да радасці». Пачынаецца яна так: «Калі знаходзішся з цікавым чалавекам, які здольны захапляцца, жыць узвышана, які ведае, чаго не ведаюць іншыя,—то побач з такім чалавекам сам робішся чалавекам цікавым...» Гэта—у адрас землякоў-старажылаў, якія закладвалі аснову культуры сучаснага Трасціно і аб якіх можна будзе пачытаць у летапісе. А мне здаецца,—нібыта пра самога Ласоўскага, чалавека сапраўды цікавага, «які здольны захапляцца, жыць узвышана». А далей—да сённяшняга свайго чытача: пазнаёміўшыся з слаўтымі старонкамі роднай зямлі трасцінскай, вам «і самім захочацца стаць цікавейшымі, зрабіць пошук цікавых людзей, падзей, літаратурных знаходак і аб усім гэтым напісаць у нашым летапісе. Пошук патрабуе ад даследчыка смеласці, веры ў свае сілы, настойлівасці і волі. Затое і ўзнагароду ён прыносіць самую вялікую — поспех. Хто зведаў поспех — той самы шчаслівы чалавек...»

Такім Ласоўскі хоча бачыць свайго чытача, свайго земляка—шчаслівым даследчыкам жыцця, гісторыі.

Едучы з Трасціно шырозным старажытным шляхам, я доўга бачыў за сабой, ускрай вёскі, дом Міхала Аляксеевіча. Мне і раней казалі, што дом у яго цудоўны, вялікі і новы—на ўсю вёску. Вось я і пабываў у гэтым доме. Сапраўды цудоўны дом пабудаваў Ласоўскі: вялікі, высокі—і сабе і дзецям паслужыць. Але ж яшчэ мне казалі, што гэты прыгожы дом ён будаваў шмат гадоў, іншыя гаспадары паспелі за гэты час не адзін дом узвесці, прадаць і купіць: даўно пачаў будаваць, а ўсё яшчэ не закончыў...

НЕТАРОПКА класці вянцы, упэўнены, акрамя ўсяго іншага, падказвала і душа Ласоўскага. Дом ён будаваў так, як і чалавека выхоўваў кнігамі: без спешкі, але з любоўю, каб народжанаму даць доўгі і светлы век.



# СОНЦА, ПАВЕТРА, ВАДА



ТАМ, ДЗЕ СІНЕЕ НАРАЧ...

Фота М. МІНКОВІЧА.





# ДУМКІ ПРА МІКРАРАЁН

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

ў гэтым лесе: бітае шкло, кансерваваныя бляшанкі, смецце... А што робіцца зімой, напярэдадні новага года — жах! Каму не лень, цягнуць з лесу маладзенькія ялінкі, ды яшчэ колькі пераламаюць, надламаюць, покуль выберуць сабе да спадобы... Ачмурэлы ад гарэлкі нягоднік разбівае аб сасну пустую бутэльку, бо несці яе назад яму неахвота, а пакінуць цэлай шкада: раптам хто-небудзь падбярэ ягоныя «кроўныя» дванаццаць капеек!.. Кампанія маладых балбесаў з транзістарамі замест уласных галоў пакідае на месцы свайго пікніка яечнае шалупінне, рыбныя косткі, засаленыя газеты, і зноў такі — б'е бутэлькі!.. Дарослы дзядзя, падпіўшы, разбурае мурашнік, шафёр «мусаркі», завярнуўшы ў лес, крадком скідае свой груз у зялёную лагчынку!..

Так, няма гаспадара ў леса! Няма? Не, гаспадар ёсць, і гаспадар гэты — увесь мікрараён, усе яго жыхары. Трэба толькі ўспомніць пра тое, што ты гаспадар — ты, рабочы, інжынер, урач, настаўнік, студэнт. Ты можаш прышчучыць тых асобных нягоднікаў, якія знішчаюць твой лес, абражаюць сваімі хамскімі паводзінамі зялёнага друга твайго дома. Хіба нельга зрабіць так, каб у выхадныя дні дзяжурылі ў лесе дружыннікі? І чаму б домакіраўніцтвам не мабілізаваць свой актыў на абарону лесу? Няхай той, хто яго псуе і забруджвае, адказвае перад таварыскім судом, няхай расплачваецца за гэта штрафам і ганьбай. І няхай усвядоміць кожны жыхар мікрараёна, што калі ён у перадпавагоднія дні шкадуе рубля, каб набыць ёлку законным чынам і цягне яе з нашага агульнага лесу, ён абкрадвае самога сябе не на рубель, а на нешта значна большае, што не вымяраецца грашыма, абкрадвае сваіх дзяцей.

Цяпер лета, і дзятва з усіх дзіцячых садоў бавіцца на сонечных палянках, дзіцячым садам мікрараёнаў не абавязкова выязджаць на дачу, дзякуючы блізкаму лесу, і не даражыць ім, гэта значыць не даражыць здароўем і радасцю свайго дзіцяці.

Няхай жа заўсёды стаіць побач з нашымі дамамі лес, няхай кувае ў ім зязюля, налічваючы добрым людзям многія шчаслівыя гады! Але вернемся крыху назад, да таго, што ў мікрараёнах няма культурнага цэнтра, многіх неабходных магазінаў. Такі культурны цэнтр будуецца, пачалося будаўніцтва і гандлёвага цэнтра. Аднак вельмі ж марудна ідзе гэтае будаўніцтва, відаць таму, што гэтыя аб'екты ўзводзяцца не з блокаў і панэляў, а з цэглы.

Але я вось пра што думаю: хуткадоўга будзе працягвацца гэтае будаўніцтва, ды ўсё ж атрымаюць мікрараёны і свой ГУМ і свой кінатэатр і іншае, чаго нестае. Толькі якімі яны будуць, гэтыя ГУМ і кінатэатр?

Грамадскія будынкі займаюць важнае месца пры забудове. Аўтары забудовы імкнуцца падкрэсліць іх, паставіць па восі праспекта альбо вуліцы, у курданеры, у акружэнні зялёных насаджэнняў. Грамадскаму збудаванню архітэктар стараецца надаць непаўторнае індывідуальнае аблічча. Гэта — у ідэі. А на самой справе? На самой справе і такія будынкі ўзводзяцца, як правіла, па тыпавых праектах. Але ж у планах **тыпавога праекціравання** мы маем справу з аб'ектамі і такога парадку, якія ўзводзяцца **адзін раз у дзесяць-дванаццаць год**. Хіба не ясна кожнаму, што такі праект, перш чым яго ўжывуць у другі раз, паспее ўстарэць? Вось і атрымоўваецца, што, скажам, амаль усе гарадскія кінатэатры зусім аднолькавыя, і ёсць апасенне, што кінатэатр, які будуюць на вуліцы Каліноўскага, нічым не будзе адрозніівацца ад кінатэатра «Маяк», што ў канцы бульвара Шаўчэнкі. А хіба гэта абавязкова? Хіба нельга дазволіць архітэктарам скампанаваць будынак новага кінатэатра па-свойму, хоць бы крыху інакш скампанаваць і гандлёвы цэнтр? Стандартызацыя будаўніцтва неабходная справа, выкліканая маштабамі яго ў нашай краіне, але ёсць нейкая мяжа тыпізацыі ў архітэктуры, мяжа, па-за якой гэтая тыпізацыя траціць свой сэнс і пачынае супярэчыць эстэтычным прынцыпам гарадской забудовы.

Думаецца, што пра гэта павінны падумаць аўтары архітэктурных праектаў новых грамадскіх будынкаў у мікрараёнах і будаўнікі таксама. А падумаць яшчэ не позна. І, відаць, ёсць магчымасць надаць гэтым аб'ектам арыгінальны выгляд, не выходзячы за межы зацверджанай сметы і карыстаючыся адпушчанымі матэрыяламі, наяўнымі стандартнымі дэталямі. Дзіцячы «канструктар» таксама складаецца з стандартнага набору дэталяў, але нават з іх і нават дзіця сабірае мноства варыянтаў той ці іншай мадэлі. А тут не дзіцячы «канструктар» і не дзеці, а майстры «застыглай музыкі» — майстры архітэктуры. Няўжо яны павінны заставацца рабамі «глабальнай» тыпізацыі?

...Рана-раненька над Усходам-2, над Зялёным Лугам, над толькі што ўзведзенымі дамамі Усходу-1 узыходзіць сонца. Прыслухайся, і ты пачуеш, як у лесе спявае берасцянка, як звініць жаўрук над полем паміж лесам і мікрараёнамі. Лёгкі ранішні ветрык прыносіць пах сасны, сянны пах прымятай травы — салодкі і духмяны... Паступова людна становіцца ў мікрараёнах, несупыннымі ручаінкамі цякуць да аўтобусных прыпынкаў людзі — і сталыя, з сівымі скронямі, з адзнакамі салдацкай і партызанскай доблесці на грудзях, і зусім маладыя, новае пакаленне рабочага класа, юнае племя творцаў навукі і тэхнічнага прагрэсу, і ціўкаюць, як птушаняты, равеснікі гэтых новых раёнаў горада, дзятва са шматлікіх дзіцячых садоў. Пачынаецца новы працоўны дзень.

Тут, на былым гаротным полі, палітым слязьмі і крывёю, жывуць яны, мінчане-«мікрараёнцы», людзі, якія ўласнай нястомнай працай здабылі сабе свой дабрабыт, людзі, якія разам з усім народам будуюць новы свет, новае грамадства, і якія маюць права на тое, каб дом, у якім яны жывуць, быў трывалы, прыгожы і зручны, каб не было ў ім ніякіх агрэхаў і недаробак. Менавіта таму тут былі выказаны крытычныя заўвагі пра тое, што зроблена не так, пра тое, што турбуе. Мяне і майго суседа. Усіх нас. Бо турбота наша — ад любві да нашага роднага Мінска, любві, якая вырасла з глыбінь той зямлі, на якой яму стаяць вечна!..

